# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 11 (1661) — ГОД XXXIII — БЕЛАСТОК 13 САКАВІКА 1988 г. — ЦАНА 12 зл.



## Вялікае калядаванне ў Гайнаўцы

17 гадоў таму назад у дзейнасці Ваяводскага дома культуры ў Беластоку нарадзілася ініцыятыва штогадовых аглядаў калядных песень з усяе Беласточчыны. З вялікім перапынкам праіснавалі гэтыя агляды да сёння. На аглядах такіх сустракаюцца розныя рэгіянальныя калядныя групы. І тыповыя нашы беларускія „з гвяздай“ ці без яе, часам з батлейкай, спяваючыя вялікія як па зместу, так і па меладыйнасці праваслаўныя калядкі. Другі тып калядных груп прадстаўляюць так званыя „гэроды“, характэрныя для польскай каталіцкай традыцыі сцэнкі, дзе менш (або і зусім няма) спеву, а больш гаворкі і гульні.

Апошні цэнтральны агляд калядных калектываў адбыўся ў Гайнаўцы ў доме культуры „Гурнік“. 21 калектыў выступіў перад гайнаўскай публікай. Вельмі выразна вызначылася на ім граніца паміж дзвюма традыцыямі калядавання, жывучымі на Беласточчыне, нават можна сказаць, паміж дзвюма культурамі: праваслаўнай і каталіцкай. У гэтым супастаўленні як па сіле ўздзеяння, так і па глыбіні выразу выігрывае калядаванне праваслаўнае. „Гэроды“ могуць падабацца сваёй пярэстасцю, каляровасцю, камедыйнасцю (людзі смяяліся, напрыклад, з выганяння смерці), нават той спецыфічнай народнай, я б сказала, наіўнасцю ў інтэрпрэтацыі.

Недасяжную, аднак, вышыню чалавечых спадзяванняў і перажыванняў, глыбокую задуму над жыццём і сэнсам існавання прадставілі беларускія калектывы сваімі калядкамі. І малыя „Беларусачкі“ з Дашоў, і дзявочы квартэт з Грабаўца, і „Арэшкі“ з Арэшкава, і „Дружба“ са Старога Корніна, і „Тыневічанкі“ з Тыневіч, і „Згодныя макі“ з Райска, і хор з Чыжоў падмянілі хор анёлаў...

Асобна хачу сказаць аб каляднай групе з Мельніка. Гэта дзевяць жанчын, спявалі яны з батлейкай (батлейка, як і зязда, ідзе ад беларускай традыцыі), крытай саломай, з рухомымі фігуркамі ў акенцы. Спявалі праваслаўныя калядкі. Цудоўныя галасы! Спадабаліся гэтыя жанчыны! Трэба хуценька падключыць іх абавязкова і да конкурсу беларускай песні.

Сустрэчы такія, як калядны агляд, спрыяюць узаемапазнаванню, а значыць і ўзаемапашане. Нават узаемапранікание традыцый на аглядзе выявілася. Напрыклад, праваслаўны Райск інсцэнізаваў свае цудоўныя калядкі такім чынам, што маладую дзяўчыну пераапранулі ў Дзеву Марыю, якая, прысеўшы, трымала на руках вялікую ляльку, быццам бы сына. Побач, з ключкай стаяў сагнуты Іосіф. Гэта выразны ўплыў каталіцкай традыцыі.

Зноў групы з Клепачоў і з Драгічына спявалі польскія калядкі, але „з гвяздай“ і без іншых інсцэнізацыйных дадаткаў. Проста жанчыны, апранутыя ў народныя касцюмы, выйшлі і спявалі. І тут, па-мойму, відаць уплыў якраз праваслаўнай традыцыі калядавання.

Ацэнка журы.

У групе дзіцячых калектываў першую ўзнагароду атрымалі „Беларусачкі“ з Дашоў „за мастацкія вартасці і стылістычную чысціню, згодную з духам рэгіёна“, і калектыў „Жаль“, які выступіў „з казой“, „за прадаўжэнне найстарэйшай народнай традыцыі“. Беларускі дзявочы калектыў з Грабаўца быў адзначаны меншай узнагародай.

У групе дарослых першую ўзнагароду з нашых калектываў атрымалі Арэшкава і Чыжы. Сярод лаўрэатаў другой узнагароды апынуліся Райск і Стары Корнін, а адзначаны Мельнік і Тыневічы.

Усе беларускія калектывы, якія прынялі ўдзел у цэнтральным аглядзе калядных калектываў у Гайнаўцы, атрымалі ўзнагароды. Заслужылі.

На здымку вы бачыце апошнюю сцэнку з выступлення каляднікаў з Арэшкава — частаванне каляднікаў. На прыгожым вышываным ручніку гаспадыня Ніна Аверчук падносіць прысмакі, усіх частуе. Потым, па даўняму арэшкаўскаму звычаю, гаспадыня гэтымі ласункамі частавала камісію і вашага ніжэй падпісанага рэпарцёра.

**Вера Валкавыцкая**
**Фота У. Завадскага**

## ЦІ Ў КАЛГАСАХ ДОБРА ЖЫЦЬ?

Нядаўна, 16 лютага г.г. адбыўся ў Беластоку XVI ваяводскі з'езд дэлегатаў сельскагаспадарчых спулдзельняў прадукцыйных, якія на Беласточчыне сяляне між сабою называюць звычайна *калгасамі*. У афіцыйнай карэспандэнцыі і ў справаздачах прынята карыстацца скарачэннем: РСП — ральнічая спулдзельня прадукцыйная.

Пад канец мінулага, 1987 года, у межах Беластоцкага ваяводства дзейнічала 59 РСП. Агульны іх прыбытак склаў амаль 670 мільёнаў злотых. На адзін працадзень выпала ў сярэднім 550 зл. Трэба, аднак, ведаць, што так званы „працадзень“ не зусім, а прынамсі не заўжды, раўняецца аднаму дню працы. Можна ў дзень зарабіць і два і больш працадзён.

Вядома, лепшыя РСП могуць пахваліцца шмат вышэйшай аплатай за працадзень. Возьмем, для прыкладу, калгас у **Старым Корніне.** Яго шматгадовы старшыня, **Аляксей Тамашук,** з гонарам хваліўся мне, што члены гэтага калгаса (у гэтым годзе ён адзначае сваё 30-годдзе) так добра папрацавалі, што хопіць у калгаснай касе грошай, каб заплаціць па 1100 злотых за кожны разлікавы працадзень. У папярэднім годзе старакорнінскі працадзень быў на 200 злотых таннейшы, але і тады ўжо суседзі зайздросцілі старакорнінскім калгаснікам высокіх заробкаў.

— Суровыя правілы эканамічнай рэформы прымушаюць нас шукаць новыя крыніцы даходаў, — кажа мне старшыня Аляксей Тамашук, калі мы ў перапынку гэтага з'езда прыселі на хвілінку, каб па-сяброўску пагутарыць. — Я, для прыкладу, — кажа старшыня, — хацеў бы калгасных свінак перарабляць на каўбасы і кумпякі ва ўласнай, значыць, калгаснай мясамайстэрні, бо цяпер вымушаны мы дзяліцца прыбыткам з дзяржаўным скупачным прадпрыемствам, або з дзяржаўным мясакамбінатам, якія да ўсяго гэтага вызначаюць нам цвёрдую дзяржаўную цану скупкі. А я ведаю, што ў Гайнаўцы, значыць, па-суседску, стаіць і пустуе „спалэмоўская“ каўбасная. Хочам яе купіць і вярнуць да жыцця. Карысць ад гэтага — двайная і нават трайная: каўбасы, шынкі і сальцісоны — для

(Працяг на стар. 6)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

 

НА МЯЖЫ

# АБ РЭФОРМЕ

Мінуў чарговы год. Можна было б сказаць патэтычна, што стары год перадаў эстафету новаму году. Аднак былі б мы бліжэйшыя праўды, калі б сказалі, што Новаму году перадаў ён старыя клопаты і праблемы. Было б вялікай наіўнасцю, калі б я карміў чытачоў танным аптымізмам. З другога, аднак, боку, было б свайго роду злачынствам, калі б я пачаў частаваць беларусаў безнадзейнасцю і бязвер'ем. Песімізм і бязвер'е сталіся сёння таварам, які бясплатна суюць у рот, асабліва моладзі, розныя палітыканы, ідэолагі, а таксама, на жаль, некаторыя духоўныя.

А як нам жывецца сапраўды? Трэба сказаць, што розным людзям жывецца па-рознаму. Аднак агульна можам сцвердзіць, што жывуць людзі ў Народнай Польшчы намнога лепш, чым жылі калі-небудзь на гэтай зямлі ў мінулым. Адносіцца гэта перш за ўсё да найбольш прыгнечаных у гісторыі слаёў грамадскасці: сялян і рабочых. А тая катэгорыя грамадства, якая лічыць сябе найбольш нешчаслівай (маю на думцы моладзь), жыве намнога лепш, чым папярэднія генерацыі. Адкуль жа ў моладзі бярэцца песімізм? Мабыць, крыніцы такога настрою вельмі розныя. Адна з іх гэта бескрытычнае захапленне іншымі краінамі. Нямала ў сённяшнім свеце краін, намнога багацейшых, чым Польшча. Зразумела, што ў гэтых краінах жывецца лепш, чым у нас усім грамадскім слаям, у тым ліку і моладзі. Да гэтага дабрабыту дайшло гэта грамадства дзякуючы доўгай, паслядоўнай упартай працы. Зрэшты, збудаваўшы дабрабыт, грамадства гэта не перастала працаваць. Далей працуюць намнога лепш, чым працуем мы. Многія ў нас, гаворачы аб будучыні, ускладаюць вялікія надзеі на рэформу. Бяда ў тым, што пры гэтым вераць у нейкую магічную сілу і магчымасць рэформы. А такой магіі ніякая рэформа мець не можа. Рэформа дасць добрыя вынікі толькі тады, калі прымусіць або заахвоціць людзей да лепшай працы, чым дагэтуль. На жаль, многія, спекулюючы гаворкай аб рэформе, усё яшчэ гавораць аб усім, ды толькі не гавораць аб лепшай, чым дагэтуль, працы. Ёсць і такія, якія наіўна думаюць, што кожны чалавек у Польшчы пачне салідна працаваць, калі толькі дзяржава пачне яму за работу многа плаціць. Наіўная гэта вера. Я асабіста ведаю многіх людзей, якія зарабляюць вельмі добра, але працуюць вельмі дрэнна. Цікава, што такія асобы таксама ахвотна накладаюць на свае галовы арэолы пакрыўджаных, мучанікаў, лічаць, што ім ад дзяржавы належыцца намнога болей, чым яны атрымліваюць. Але кідаецца ў вочы і яшчэ адно: нават тыя, хто зарабляе аб'ектыўна нямнога, жывуць някепска. Бываў я не раз у кватэрах, скажам, настаўнікаў, якія замнога не зарабляюць, і як жа прыемна, што кватэры гэтыя абстаўлены добрай мэбляй, што члены іх сем'яў добра апранутыя, што іхнія дзеці добра накормленыя. Гаварыў мне дырэктар Беларускага ліцэя Аляксандр Іванюк, што калісьці вучні сялянскага паходжання не ішлі на платныя канцэрты, не ехалі на платныя экскурсіі. І рабілі так з прычыны недахопу грошай. Сёння, гаворыць А. Іванюк, хутчэй задумоўваецца, ехаць ці не ехаць, дзіця інтэлігента, чым сялянскае дзіця. У гэтым таксама праяўляецца вялікая гістарычная матэрыяльная і духоўная прамоцыя сялянства, прамоцыя, якой нельга аддзяліць ад Народнай Польшчы.

Вядома, у якой сітуацыі апынулася наша дзяржава. Даючы грамадству болей, чым магло даваць, мусіла працягнуць руку да другіх дзяржаў. Пазычыла ад іх столькі, што цяпер не можа звярнуць. І не зверне, калі не ўзніме на вышэйшы ўзровень працу ўсіх грамадзян. А як яе ўзняць? Я не эканаміст, таму мае думкі на гэту тэму могуць мець наіўны характар. Аднак, мне здаецца, што для гэтага ёсць толькі адзін спосаб. Гэтым спосабам з'яўляецца беспрацоўе часткі грамадства. Калі работа перастане шукаць чалавека і чалавек пачне шукаць работу, якасць працы шугане ўверх. Як вядома, найбагацейшыя краіны свету ідуць па гэтым шляху з вельмі добрымі вынікамі.

**Алесь Барскі**

**З НАГОДЫ 70-ай ГАДАВІНЫ САВЕЦКАЙ АРМІІ**

## У ГАРНІЗОННЫМ КЛУБЕ

70-ую гадавіну Савецкай Арміі ўрачыста святкавалі ў нашай краіне, у тым ліку і на Беласточчыне. 20 лютага ў гарнізонным клубе ў Беластоку адбылося ўрачыстае пасяджэнне з удзелам ветэранаў вайны, прадстаўнікоў ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад, а таксама грамадскіх арганізацый. Сярод запрошаных гасцей былі савецкія воіны — удзельнікі баёў за вызваленне Польшчы ад нямецкіх захопнікаў: генерал-маёр Валянцін Сарокін, палкоўнік Юрый Крэсцінскі, падпалкоўнік Аляксандр Камоньчук і прадстаўнік Савецкай Арміі Генадзій Сало.

Даклад камандзіра Падляшскай часці войск унутранай абароны — падпалкоўніка Станіслава Брындзы наблізіў прысутным гістарычны, баявы шлях Савецкай Арміі. Пасля выступіў з правамаю палкоўнік рэзерву Юрый Крэсцінскі. Яго выступленне было такое эмацыянальнае, што амаль за кожным выказаным ім сказам раздаваліся бурныя воплескі.

Затым адбыўся канцэрт лаўрэатаў і ўдзельнікаў конкурсу савецкай песні з Варшаўскай ваеннай акругі.

## У КЛУБЕ БГКТ

21 лютага ў памяшканні ГП у Беластоку многа членаў і сімпатыкаў БГКТ сабралася на ўрачыстасці, прысвечанай 70-ай гадавіне Савецкай Арміі. З дакладам выступіў член праўлення гарадскога аддзела БГКТ Кастусь Лукашэвіч.

Урачыстасць упрыгожыў канцэрт харавых калектываў з Рыбалаў пад мастацкім кіраўніцтвам Пятра Нявінскага і з Беластока, якім кіруе Сцяпан Копа. Усе выступленні ўзнагароджваліся бурнымі апладысментамі.

Затым адбылася сустрэча актыву БГКТ са спомненымі двума харавымі калектывамі. Удзельнічалі ў ёй ветэраны вайны і падпалкоўнік Войска Польскага Вітальд Сацэвіч. Былі ўспаміны з франтавога жыцця былога чырвонаармейца Яна Стрышко, былі песні і танцы.

**Міхась Хмялеўскі**

## ШЧЫТАМ ПАТРЭБНЫ КЛУБ

У нядзелю 24 студзеня 1988 года ў вясковай святліцы сабраліся вечарам жыхары Шчытоў. З Орлі прыехалі два мастацкія калектывы. Спярша выступіў гурток сцэнічнай творчасці, які вядзе ў пачатковай школе настаўніца беларускай мовы Анна Шыманская. Вучні, менавіта дзяўчаты з VII класа, прадставілі камедыю „Вывaражыла" Юркі Геніюша. Добра яны справіліся з адлюстраваннем у камедыі перыпетыяў солтыса з варажбой. Перш за ўсё выказаліся вельмі прыгожым вымаўленнем на літаратурнай мове. Публіка з зацікаўленнем успрымала сцэнічнае слова.

Затым прайшоў канцэрт вакальнага калектыву з Гміннага асяродка культуры. У калектыве спявае дзесяць жанчын і трох мужчын. У рэпертуары пераплятаюцца беларускія і ўкраінскія песні, якія спадабаліся слухачам. Інструктарам калектыву ад некалькіх месяцаў працуе Міраслаў Бужынскі — настаўнік музычнай школы ў Бельску. Цэласць праграмы вяла Таіса Кацэйка — педагог і грамадскі дзеяч з Орлі. У гэты вечар жыхары Шчытоў правялі час цікава і прыемна. На жаль, трэба заўважыць, што выступленне калектываў адбылося ў прымітыўных умовах. Гледачы не мелі на чым сядзець. Выступаючыя на сцэне не мелі цёплага памяшкання, каб пераапрануцца, а да таго сцэна была надта цесная. У Шчытах цяпер ёсць будынак, які не абсталяваны на клуб. Вёсцы патрэбны цёплы і ўтульны клуб, дзе была б магчымасць праводзіць культурныя спатканні. Будзем спадзявацца, што гэтай праблемай зацікавяцца гмінныя ўстановы, а жыхары Шчытоў дапамогуць змяніць аблічча свайго клуба.

**В. Хрысцінін**

САКРАТ ЯНОВІЧ

## ЗАНАТОЎКІ З АНГЛІІ

—9—

У грэцкім рэстараніку за Гудж-стрыт бяседзім у дзве пары: Джым Дынглі з Лін Мадок і я з Таняй. Афіцыянт з грацыяй акрабата носіць блюды да столікаў. У яго вострае вуха, ён заінтрыгаваны маім афінскім імем, яму няўцям, чаму я не рэагую на слоўцы з Элады... Дыскрэцыёзны спеў у стылі Тэадаракіса. Між намі беларуская гамана, у мяне па-славянску мякчэйшая, з пошыпам. З бядою ды горам грэк можа аднесці яе да Балгарыі, балканскага суседа, з якім нацярпеліся яны грыжы за Македонію. У Фінчлеўскім квартале бізнэсіць дзялец з Кіпра, які няблага ведае Беларусь. Адукуе яго Пятрусь Багроўскі, што з падгайнаўскай Руткі, які, стаўшы на кватэру ў комплексе Скарынінкі, наняўся чорнарабочым у рамонтную фірмачку кіпрыйца, праваслаўны ў праваслаўнага...

Дынглі — з асяроддзя маладой брытанскай навукі — прасоўваецца ўгару, са ступенькі на ступеньку ў іерархіі лонданскага універсітэта. Узначаліў прафесарскае Англа-беларускае таварыства, істотным чынам уплывае на змест англамоўнага *„Часопіса Беларусаведы"* (The Journal of Byelorussian Studies). Гісторыя Беларусі засмоктвае яго, нешта вышукоўвае, укамплектоўвае... Хто ж прадбачыць лабірынты лёсу — хвацкі англічанін возьме і напіша яе капітальны варыянт, на сорам нашым акадэмікам? Бы нашумеўшы Дэйвіз пра Польшчу.

Джым, можа, і чухае часамі патыліцу, што ліхі падкусіў яго палезці ў дрыгву праблемаў нашай нявыспелай нацыі, у жыцці якой больш пытанняў, чым адказаў. Але, ці ж не ў гэтым шанц для дапытлівага аналітыка?

Савецкі тыднёвік *„Літаратура і Мастацтва"* паказвае, як царска-дваранская гістарыяграфія зняволіла аўтараў *„Истории БССР"*, у якой пасля сямідзесяці гадоў ад Кастрычніцкай рэвалюцыі вучань або студэнт зубрыць, напрыклад, такую інфармацыю: *Выдающийся русский доктор Франциск Скорина...*" Ёсць у Ніколы Вапцарава наступныя словы: *„Мы балгары толькі таму, што памятаем імёны сваіх герояў"*. Ага, а якія імёны свята захоўвае беларус? І дзе ён пра іх даведваецца?

— Дэвастацыя беларускай нацыянальнай свядомасці спадарожнічае ёй ад самага пачатку, выхопліваючы з яе ўсенька, што ўдаецца, бы воўк, што цікуе каля пашы. У такой рваніне ўсё дазволенае. Порсткі камбінатар М. Мурадэлія распаўсюдзіў у пасляграмадоўскі 1927 год брашурыцу з даўжэрным пасярэдневяковаму загалоўкам *„Sęp nam wyjada nie serce, lecz mózgi"*. Jak tworzyliśmy hurtki.

(Працяг на стар. 5)



 

## БЕЛАРУСІКІ


Krutalewicz Wadim, Rożdienije Biełorusskoj Sowietskoj Riespubliki, Mińsk 1975. Rec. Deruga Aleksy, Z *Pola Walki* 1977, nr 3, s. 255—258; Tomaszewski Jerzy, *Kwartalnik Historyczny* 1976, nr 4, s. 941—944.

Krzywonos Jan, Zienkowicz Bogusław, Gospodarka rolna w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Radzieckiej, *Nowe Rolnictwo* 1979, nr 1, s. 23—25, tab.

Książek Tadeusz, Dni polskiej nauki i techniki w BSRR, *Biuletyn Informacyjny Instytutu Lotnictwa* 1966, nr 16, s. 2—4, il.

Książek Tadeusz, Polsko-litewsko-białoruskie związki społeczne i naukowo-kulturalne w ostatnim ćwierćwieczu, *Z Dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich* t. 5 1969, s. 171—178.

Kubiak K., Wyróżniki obcości w bajce białoruskiej, Cechy boskie i diabelskie „Swego" i „Obcego", *Etnografia Polska* t. 23, 1979, z. 2, s. 185—193, bibl.

Kubicki Wojciech, 3 tys. eksponatów na polskiej wystawie przemysłowej w Mińsku. Polskie wyroby przemysłowe w Mińsku, korespondencja z Mińska, *Życie Warszawy* 1970, nr 148, 150, s. 2.

Kubicki Wojciech, Obrazki białoruskie: Pierwsze kroki w Mińsku, Wydajność—rentowność—płaca, Mińsk zaprasza! Soligorsk, korespondencja z Mińska. *Życie Warszawy* 1970, nr 159, s. 6, nr 161, s. 3, nr 171, 177, s. 6.

Kubicki Wojciech, Żodino czyli mysz, która urodziła górę (Zakłady Samochodowe), korespondencja z Białoruskiej SRR, *Perspektywy* 1971, nr 29, s. 30—31, il.

Kulaszoû Arkadź, Jestem z domem swym złączony na wieki (w), tł. z białor. Włodzimierz Blatton-Segal, *Tygodnik Kulturalny* 1982, nr 30, s. 9.

Kułakowskaja T., Obsługa agrochemiczna kołchozów i sowchozów Białorusi, tł. *Międzynarodowe Czasopismo Rolnicze* 1975, nr 6, s. 22—26, rys., tab., wykr.

Kułakowskaja Tamara, System usług agrochemicznych na Białorusi, oprac. z ros. A. Seklemowa, *Nowe Rolnictwo* 1977, nr 21/22, s. 31—33, rys., tab.

Kunickij Michaił, Inspektorzy powinni być w zakładach (ochrona pracy na Białorusi), rozm. przepr. Jerzy Krzyciak, *Ochrona Pracy* 1986, nr 11, s. 21—22.

Kurpiejew Mikoła, Elegia(w) tł. z białor. Włodzimierz Segal, *Materiały Repertuarowe*, Zarząd Kultury i Oświaty Głównego Zarządu Politycznego WP, 1970, nr 4, s. 25—26.

Kurpiejew Mikoła, Elegia (w), tł., z białor. Włodzimierz Blatton-Segal, *Tygodnik Kulturalny* 1982, nr 30, s. 9.

Kupała Janka, Bezsilność (w), tł. Aleksander Barszczewski, *Kontrasty* 1972, nr 6, s. 22.

Kupała Janka, Czarny Bóg (w), Chochlik (w), Za wszystko... (w), tł. z białor. Jan Huszcza, *Tygodnik Kulturalny* 1978, nr 9, s. 9.

Kupała Janka, A kto tam idzie? (w), Jacy są (w), Powiedz no mi, kmieciu mój... (w), tł. Florian Nieuważny, Weselnicy (w), Czarny Bóg (w), tł. Tadeusz Chróścielewski, *Literatura na Świecie* 1982, nr 11, s. 3—7, il.

Kupała Janka, A kto tam idzie? (w), tł. z białor. Włodzimierz Blatton-Segal, *Tygodnik Kulturalny* 1982, nr 30, s. 9.

Kupała J., Pieśni biełaruskaj wáładar, Mińsk 1981. Rec. Poźniak Telesfor, *Slavia Orientalis* 1983, nr 1/2, s. 181—184.

Kupała Janka, A kto tam idzie? Łódź 1981. Rec. Staniszewski Andrzej, *Kontrasty* 1983, nr 2, s. 41—43.

Kupała J., Z głybiń narodnych, Mińsk 1982. Rec. Poźniak Telesfor, *Slavia Orientalis* 1984, nr 2, s. 248—251.

Kupała Janka, Poezje wybrane, Warszawa 1984. Rec. Ryszkowski Janusz, *Tygodnik Kulturalny* 1984, nr 43, s. 12.

Kuraszkiewicz Władysław, Tendencje białoruskie i ukraińskie w gwarach okolic Puszczy Białowieskiej. *Acta Baltico-Slavica* t. 1, 1964, s. 247—257, mapa; przedruk. Kuraszkiewicz Wł., *Ruthenica* PWN, Warszawa 1985, s. 38—48.


P.C.

## НАША ПОШТА

„Шаноўная рэдакцыя! У „Ніве" № 5 вы падаеце інфармацыю аб магіле Івана Луцкевіча ў Закапаным. На гэту тэму я хацела б дадаць яшчэ некалькі слоў.

Магілай Івана Луцкевіча цікавіўся ў свой час мгр Мар'ян Пецюкевіч, былы дырэктар Музея ім. Івана Луцкевіча ў Вільні. Вось што пісаў ён мне (М.П. памёр 13.09.1983 г.) у лісце ад 25.06.1972 г., які я захоўваю да сёння:

„Пра магілу Івана Луцкевіча я атрымаў афіцыяльныя, дакладныя звесткі. Яна пасля вайны разбурана, на ёй пахавана нейкая Каміля Зялінская і ёй пастаўлены помнік. Дык вось, месца, дзе спачываюць косці І.Л., вядомае, але на тым месцы помніка нельга паставіць".

Апрача таго, хачу сказаць, што магіла І. Л. была сфатаграфавана і ў мяне гэты здымак ёсць. На здымку відаць таблічка з вельмі выразна напісаным прозвішчам (у мяне ёсць таксама здымак Івана Луцкевіча, зроблены ў студзені 1918 года).

Усімі справамі, звязанымі з пахаваннем, займаліся, здаецца, сёстры Мэнке — Юлія і Ляля і адразу пасля яго смерці ўзнікла тая магіла, адлюстраваная на здымку. Гэта яны, якія былі з ім да апошняй хвіліны яго жыцця, афармілі і аплацілі ўсе справы, звязаныя з пахаваннем. Здымкі, аб якіх пішу, я атрымала разам са здымкамі абедзвюх сясцёр.

Калісьці я бачыла нават апісанне коштаў пахавання. Хачу яшчэ адзначыць, што Антона Луцкевіча, брата Івана, тады на радзіме не было.

Калі б рэдакцыя хацела гэтыя здымкі выкарыстаць, магу іх пазычыць.

З пашанай

**А. Бергман.**"

Дарагая пані Аляксандра!

Вы столькі добрага робіце для беларускай справы, што мы часамі прыходзім у захапленне. Вось і цяпер Вы адразу адгукнуліся! Вядома, што здымкі нам вельмі прыдадуцца (ужо атрымалі іх і зрабілі рэпрадукцыю). Яны ж нязвыкла каштоўныя для нас ды і для ўсіх беларусаў. Толькі патрымаем іх да будучага года, якраз тады будзе 70-годдзе з дня смерці Івана Луцкевіча. Тады і будзе нагода, каб апублікаваць. Быў бы гэта падарунак нашым чытачам ад Вас і ад нас.

**(ач)**

## БЯДА З БЯДОЮ...

Рэдка я выязджаю, але бываю гадзіну-другую ў Гайнаўцы. Бачуся з людзьмі.

Жыхар Бобінкі пытаецца:

— Што мне рабіць: сына з пякарні прагналі, бо два дні не хадзіў на работу.

— Ваш сын, — кажу яму, — павінен умець думаць, а не вы за яго. Мог жа ён неяк дагаварыцца з дырэктарам, каб тыя два дні прагулу палічыў яму ў водпуск, прысягнуўшы, вядома, на ўсіх святых, што болей такога цырку не ўчыніць... Бо як гэта так: узяў і не пайшоў на работу? Так можна і ўсю Польшчу прасвістаць!

Была я ў Бельску, дзе трапіўся адзін вынаходнік. Кажа ён:

— Дзяржава наша, ну, як паны тыя, — выкідае грошы капіталістам заграніцай на куплю ўсякіх ліцэнзій, а я тут прыдумаў, напрыклад, алейны абагравальнік у кватэры. Ён грэе пад электрычнасцю, але калі і выключаць тую электрычнасць, бо на правінцыі часта выключаюць, дык гэты мой абагравальнік яшчэ на працягу васемнаццаці гадзін грэе кватэру. Мяне так зацікавіў гэты абагравальнік — надакучыла дровы валачыць ды вугаль разбіваць! — што я і забылася папытаць у яго пра адрас. Можа, Андрэй Гаўрылюк, бельскі карэспандэнт „Нівы", ведае?

Адзін раз бачу: сядзіць на прыпынку чалавек старэнькі-старуткі, а маладыя абмінаюць яго, гідзяцца падсесці бліжэй. Села каля яго я. Ён вельмі ўзрадаваўся і сказаў:

— Яшчэ не звяліся людзі на гэтым свеце.

Сустрэла я неяк жанчыну з недалёкай вёскі. Чалавек яе запёрся на работу за доляры аж у Амерыку. Ён тамака, вядомая справа, падчапіў сабе новую бабу (у адным толькі Чыкага, кажуць, з'явілася ўжо каля двухсот хлопцаў і дзяўчат з Беласточчыны). Ну, мужчыне на чужыне патрэбная баба, і разумная жонка не будзе крыўдаваць за гэта. Гэты вясковы амерыканец акуратна дапамагае сваёй цяжка працуючай на гаспадарцы жонцы. Шле ёй добрыя пачкі. Шафёр фірмы, якая развозіць тыя пачкі, дамагаецца платы. Ці мае ён права на тое, калі на пачцы напісана, што кошты пасылкі аплочаны тым, хто выслаў?

І на заканчэнне — праблема: у нашай вёсцы правялі водаправод, але так, што ў адных замярзае вада ў провадах, а ў другіх не замярзае, напрыклад у Васі Галёнка. Думаю, што і тут няма таямніцы: Галёнку глыбей пусцілі провады ў зямлі, бо зямля ў нашым клімаце прамярзае на метр і дваццаць сантыметраў, часамі да паўтара метра. Не дапільнавала я тых майстроў, калі праводзілі водаправод, і цяпер маю бяду. **М. П.**

## ЦІ Ў КАЛГАСАХ ДОБРА ЖЫЦЬ?

**(Працяг са стар. 1)**

насельніцтва, месцы працы і заробак для сем'яў нашых членаў і даход — для спулдзельні. Найперш, аднак, мы вымушаны ўладкаваць справу з гайнаўскім санэпідам, бо гэтыя сторажы гігіены цяпер вельмі суровыя ў сваіх патрабаваннях.

РСП у Агароднічках існуе ледзь ад 1982 года. Узнікла яна на аснове модных даўней супалак аднаасобных сялян. 120 га зямлі ў 90 дзялянках і зусім мала ахвотных людзей, каб корпацца ў гэтай зямлі. Недалёкі Беласток (гэта каля Супраслі) з даездам на гарадскім транспарце прапануе кожнаму ахвотнаму працу і заробак.

— Дык пачалі мы шукаць нейкіх заманлівых спосабаў, каб прыцягнуць людзей да працы ў нашай спулдзельні, — кажа старшыня гэтай РСП Януш Баярскі. — Найперш заняліся мы нарыхтоўкай драўляных тронкаў для лапат і для іншых ручных прылад. Затым узяліся за вытворчасць драцяной сеткі, за якой надарэмна людзі ганяюцца па крамах, а пасля адважыліся на зусім новую прадукцыю. Спецыялісты па будаўніцтву з Беластоцкай палітэхнікі апрацавалі тэхналогію па вытворчасці пустакоў з драўляных



**Трактарыст Ян Барута з дарожкаўскага калгаса.**

# БЛОКІ НА ВЁСКАХ

Змяняюцца краявіды і архітэктура вёсак. У старое вясковае будаўніцтва ўціскаецца новае, гарадскога тыпу. Будуюцца прыгожыя вілы, блокі, вялікія школы, асяродкі культуры і здароўя, адміністрацыйныя будынкі. І выгляд вясковых палёў змяніўся. Зніклі доўгія і вузкія палоскі. Рэдкімі сталі калодзежы з жураўлямі, змяніліся звычаі.

Змянілася ўсё і ў раёне вёсак Баброўнікі і Лужаны, дзе цяпер гаспадарыць сельскагаспадарчы кааператыў.

У Лужанах і Баброўніках многія даўнейшыя хаты перасталі ўжо існаваць. Частка іх яшчэ стаіць з забітымі дошкамі вокнамі і ажывае толькі тады, калі прыязджаюць з горада ў водпуск іх уладальнікі. Побач з гэтымі вёскамі стаяць ужо блокі. Адзін — у Лужанах, а два — у Баброўніках, ды яшчэ там і адміністрацыйны будынак. Непадалёк ад іх — невысокія, але вялікія жывёлагадоўчыя фермы.

Змяніліся цяпер радыкальна і патрэбы сельскагаспадарчых рабочых. Калі б не было памяшканняў гарадскога тыпу высокага стандарту, дык не прыйшлі б людзі працаваць у кааператыў. Цяжкая праца ў сельскай гаспадарцы, хоць лягчэйшая, чым калісьці, можа прывабіць людзей толькі добрымі сацыяльнымі ўмовамі.

У Лужанскім сельскагаспадарчым кааператыве з сядзібай у Баброўніках (гміна Гарадок) 2079 гектараў пераважна слабой зямлі. ПГР не мае ніякіх ільгот за гаспадаранне на землях, дзе патрэбны спецыяльны агратэхнічны догляд. Але добра апрацаваная і запраўленая глеба і на такіх землях павінна даваць добры ўраджай.

— Раслінная прадукцыя ў нас больш рэнтабельная, — гаварыў кіраўнік сельскагаспадарчай вытворчасці інж. Януш Гумкоўскі. — Давялося шмат папрацаваць, каб палепшыць глебу. Найцяжэй было пазбыцца з поля каменняў, якія зніжалі ўраджай і вельмі псавалі машыны. Шмат працы ўклалі ў вапнаванне. Яшчэ і цяпер на 1 гектар высяваем па 1100–1200 кг вапны. Шмат даем натуральных угнаенняў, бо маем іх дастаткова з гадоўлі кароў і авечак.

Другое месца ў даходнасці кааператыву займае жывёлагадоўля — галоўным чынам, малочныя каровы і авечкі.

Апрача сельскагаспадарчай вытворчасці кааператыў займаецца і паслуговай дзейнасцю, выкарыстоўваючы для гэтага свой транспарт і камбайны. Возіць ён дзяцей у школу, будуе дарогі, не праміне ніякай аказіі, каб выпрацаваць як найбольшы даход. За мінулы год кааператыў зарабіў амаль 80 мільёнаў злотых. Гэта нямала, але і патрэбы вялікія.

— Трэба пабудаваць яшчэ адзін дом на 16 сямей. Патрэбны таксама склад на 2 тысячы тон збожжа. Неабходна бесперапынна аднаўляць машынны парк. Ды і іншыя, драбнейшыя выдаткі ёсць, — інфармуе старшыня кааператыву Рамуальд Дужэй.

Сацыяльныя справы ў кааператыве ўладжаны нядрэнна. Ёсць тут клуб селяніна, сталоўка, кааператары ездзяць на экскурсіі па краіне і заграніцу. Лужанскі кааператыў супрацоўнічае з калгасам „Бальшавік“ Гродзенскай вобласці. Наладжваюцца паездкі для абмену вопытам у арганізацыі працы, а таксама аказваецца канкрэтная ўзаемадапамога. Мінулым летам, у час цяжкой жніўнай кампаніі, на палях кааператыва працавала пяць камбайнаў з калгаса „Бальшавік“. Пазней лужанскія трактары памагалі ў палявых работах на калгасных палях.

**Міхась Хмялеўскі**

## ПРЫЯЦЕЛЬ ШКОЛЫ

Магістр Мікалай Леўчук працуе дырэктарам СТВ (Спулдзельня вясковага транспарту) у Гайнаўцы. Карыстаецца ён там вялікай пашанай. Ад 1984 г. СТВ апякуецца пачатковай школай у Барысаўцы. Леўчук, як добры беларус, шчырасардэчна дапамагае вясковай школе. Неяк сказаў ён: „У цяперашні час школа не можа быць без тэлефона“. І дапамог, каб у барысаўскай школе з'явіўся тэлефонны апарат. Шмат помачы ад яго ў арганізацыі экскурсій, напрыклад, у далёкі Люблін. Дзякуючы Мікалаю Леўчуку, школа атрымала фотаапарат і змагла давесці да парадку спартыўную пляцоўку.

За ўзорную апеку над барысаўскай школаю магістр Мікалай Леўчук дастойны ганаровага звання „Прыяцель школы“.

**А. Ялоза**



Рака Нарва напрадвесні.

Фота Я. Целушэцкага.

стружак і вугальнага попелу, які застаецца ад спальвання вугалю на электраэнергетычных станцыях. Справа была новая, няпэўная. Мы адважыліся. І цяпер гэты тавар, пустакі для пабудовы інвентарскіх будынкаў, ідуць як вада. Даход спулдзельні папаўняецца. Аднак паявілася нечаканая небяспека. Улады абрэзалі нам прыдзел гаручага. Замест 50 тон атрымалі мы на 1988 год усяго ледзь 18 тон. Дык як тут жыць? — драматычна пытаў старшыня Баярскі, ды яшчэ дакінуў:

— А гавораць нам, што ўсе сектары сельскай гаспадаркі роўныя! Неяк не чуў я, каб аднаасобнікі мелі абмежаваны доступ да ропы. Колькі ёсць яе на бензазаправачнай станцыі, столькі бяруць яны, купляюць без абмежаванняў. Нам таксама давядзецца купляць ад іх, ад сялян. Толькі якім спосабам, калі ў РСП на ўсё трэба мець рахунак, падкладку...

Калгасы ў **Сальнічках** і **Дабжыневе-Вялікім** папаўняюць свой даход перапрацоўкай агародніны, фруктаў і грыбоў. **Славамір Акуроўскі**, старшыня РСП у Дабжыневе, кажа, што 95 прац. прыбытку ў яго калгасе выводзіцца з гэтай, быццам бы, дабавачнай прадукцыі. 900 тон перапрацаванай і затым закансерваванай агародніны і садавіны выходзіць з варот гэтай спулдзельні. Амаль 800 тон — на экспарт. Падобным чынам справы ідуць у Сальнічках. Гуркі, парэчкі, трускалкі, грыбы... Перш за ўсё на экспарт. Але і тут наракаюць на недахоп многіх рэчаў, у першую чаргу на вельмі ж абмежаваныя надзелы гаручага.

Ва ўладанні беластоцкіх калгасаў знаходзіцца зараз звыш 22 тысяч гектараў зямлі. Па якасці гэтая зямля не належыць да найлепшых. Займае яна 49-ае, значыць, апошняе месца па ўраджайнасці на фоне іншых ваяводстваў. Аднак сярэдні ўраджай для ўсіх беластоцкіх калгасаў за мінулы год на гэтай жа зямлі вызначаецца ўсё-такі 28 цэнтнерамі збожжа з кожнага гектара і 190 цэнтнерамі бульбы. А ў Дарожках, для прыкладу, сярэдні ўраджай збожжавых культур наблізіўся ўжо да 40 цэнтнераў.

— Хацелі мы перавысіць узровень 40 цэнтнераў збожжа з гектара, — кажа старшыня гэтай спулдзельні **Мікалай Шпіца**. — На жаль, не хапіла нам дзесяці працэнтаў.

— Значыць, у калгасах добра жыць. Ці заўсёды і ці ўсюды?

— Было б добра, — кажа Мікалай Кусачук з Вулькі-Нурэцкай, — каб улады адносіліся да спулдзельняў таксама, як да ПГРаў і як да аднаасобнікаў. Вось недалёка ад нас, для прыкладу, у Кляшчэлях, у шчырым полі ўтвараецца новы ПГР. І адразу будуюць там цэлы жылы пасёлак. Наша спулдзельня існуе ўжо 35 гадоў, і дагэтуль ніхто не падумаў, каб пабудаваць у нас хаця б адзін жылы блок. Улады хочуць, каб мы бралі ў загаспадарванне дзяржаўны фонд зямлі. Я разумею, што мы абавязаны гэта рабіць, бо зямля не можа ляжаць аблогам. Калі, аднак, у загаспадараванне дзяржаўны фонд зямлі бярэ ПГР, дык ён на кожны гектар поля атрымоўвае аж мільён злотых датацыі, каб яго загаспадараваць, а калгас — нічога. А здараецца яшчэ, што і па судах пацягаюць. У 15 кіламетрах ад Вулькі-Нурэцкай, каля станцыі Чаромха, ёсць урочышча Пяшчатка. Звыш 120 га пясочку. Гэтую зямлю ўлады перадалі нам. Мы цяпер намагаемся пазбыцца яе, бо не хочам, каб члены нашай РСП з уласнай кішэні дакладалі да апрацоўкі гэтай зямлі. А начальнік гміны падаў на нас у суд. Калі селянін прадае жывіну дзяржаўным скупачным арганізацыям, дык яму прыслугоўвае прыдзел на вугаль або грашовая кампенсацыя. Калгасам — нічога. Я сабе палічыў: выходзіць, што РСП у Вульцы-Нурэцкай толькі па гэтай прычыне патраціла 7 мільёнаў злотых. Гаспадар, калі не законтрактаваў, можа свайго парсючка прадаць калі хоча, дзе хоча, каму хоча і за колькі хоча. Цэлымі табунамі перакупшчыкі ходзяць зараз па вёсках і нават па 400 зл. за кілаграм „жыўца“ прапануюць, толькі падай. І ўсё гэта дзеля таго, каб пасля, у Варшаве, на кірмашах, шкуру здзерці з людзей. Каб спулдзельня спрабавала пакарыстацца гэтым „вольным“ гандлем, дык адразу абазвалі б нас спекулянтамі і на другі дзень кіраўніцтва РСП мела б справу з міліцыяй, пракурорам і дзесяткамі звышчарговых кантралёраў.

Што ж, турботы і клопаты, як у жыцці. Аднак, нават гэтага наракаючага Мікалая Кусачука з калгаса ніхто і калком ужо не выгнаў бы. Ён у ім ад самага пачатку. Таксама, як многія іншыя, прысутныя на гэтым з'ездзе члены беластоцкіх калгасаў. Іх з'езд усё ж такі закончыўся аптымістычна. Былі нават узнагароды. Мікалаю Шпіцы, напрыклад, які шмат гадоў кіруе слаўным дарожкаўскім калгасам Рада Дзяржавы прысвоіла Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы. Яму дык напэўна добра жыць у калгасе.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# СВЯТА БЕЛАРУСКАГА СЛОВА

Нядаўна ва ўсіх школах прайшоў дэкламатарскі конкурс, прысвечаны 30-годдзю літаратурнага аб'яднання „Белавежа". „Зорку" запрасілі дзеці з Ласінкі. А падрыхтаваліся яны да конкурсу асабліва старанна. І гэты дзень будзе доўга ў памяці як цікавае школьнае свята беларускага мастацкага слова.

У класе-кабінеце беларускай мовы, дзе знаходзіцца багаты этнаграфічны куток, была адкрыта новая экспазіцыя народных вырабаў, сабраных па навакольных вёсках. Папярэднія экспанаты (гліняныя і драўляныя вырабы, народнае ткацтва, адзенне) павандравалі ў шафу, а сцяну занялі багатыя колішнія настольнікі — вышываныя па сетцы і мярэжаныя ад Надзеі Ялінік з вёскі Навіны, саян (ваўняная бардовая спадніца) ад Марыі Кандрацюк з Катлоўкі, чэпец бабулі Агаты Яліннік (перадала школьнаму музею дачка), парцяк (льняная спадніца) Агрыпіны Гаўрылюк, цудоўныя, вышываныя крыжыкам старыя ручнікі (вышывала Анастасія Ляшкевіч, а передала школе Вера Кананюк з Кавелы). Атмасферу свята ствараў таксама школьны тэатральны калектыў. Складаецца ён з вучняў старэйшых класаў. Падрыхтавалі яны да школьнага свята п'еску Янкі

(Працяг на стар.



Удзельніцы дэкламатарскага конкурсу Ася Кандрацюк, Ася Астапчук, Крыся Садоўская, Крыся Плева, Ася Філіповіч і Ася Коўнер.

## КАПА ПЕРНІКАЎ ЗА ТРЫ КАПЕЙКІ

Каля нашае царквы быў фэст. Наз'язджаліся людзі з усяго свету, як у нас казалі. А свет гэты ўвесь меў у радыусе дзесяць-дванаццаць вёрст. Дзяўчаты і хлопцы хадзілі праз плошчу прыбраныя ў святочныя строі. З бліжніх мястэчак папрыязджалі бойкія мяшчанкі з пернікамі і мучнымі цукеркамі. Моладзі хапала і ля гэтых вазоў, бо тут ішла латарэя, цягнулі нумаркі. Аддаўшы тры капейкі, можна было выцягнуць шчаслівы нумарок на капу пернікаў адразу, а іншым разам і нічога не выцягнуць. Я пра такую механіку яшчэ ніколі не чуў. Мама дала мне тры капейкі, каб я схадзіў і купіў тры пернікі: сабе, сястры і брату. Калі я падышоў да воза і паказаў менавіта тры капейкі, шастак, як у нас тады казалі, дарослыя хлопцы надумаліся пажартаваць з мяне, малога.

— Што табе тры пернікі! Кідай свой шастак і цягні нумарок! Адразу ўвесь воз будзе твой.

Я так і зрабіў: укінуў грошы, пацягнуў нумарок.

І што б вы думалі: выцягнуў шчаслівы нумар, сапраўды капу пернікаў.

Хлопцы аж пазайздросцілі.

— Ты падумай, колькі шастакоў пракідаў — нічога няма. А гэты малы — з аднаго разу ўвесь кон і забраў...

Але што рабіць далей? Я ж не данясу дамоў такі выйгрыш. Тыя ж хлопцы знялі з мяне кашульку, спакавалі ў яе пернікі і памаглі дадому паднесці.

Маці мая напужалася. Падумала, што я абрабаваў тую гандлярку.

Павінен прызнацца, што гэта быў мой адзіны выйгрыш за ўсё жыццё. У далейшым я выйгрываў толькі тое, што зарабляў сваёй уласнай працай, якая не заўсёды бывала лёгкая.

## ДЗЯДУЛЯ РАЗМАЎЛЯЕ З БАЦЯНАМІ

Скончылася зіма. Снегу бадай не засталося. Толькі дзе ў равах, у нізінах, пад дрэвамі. Сонейка прыгравала так, што ад зямлі аж пара ішла. На бярозах, на многіх іншых дрэвах пачалі трэскацца пупышкі і з'яўляліся светла-зялёныя, кволыя лісточкі. На стрэхах і ў застрэшшах заўзята цвіркалі і ціўкалі вераб'і, нібыта вітаючы вясну. Віталі яе і мы, усе малыя дзеці. Гэта ж не жарты — прасядзець колькі часу ў хатах, толькі ў адлігі выбягаючы на панадворак, ды і то — крадком.

І раптам — дзіва, навіна: бацяны прыляцелі! А жылі яны на дзядулевай сядзібе, на старым клёне. На верхавіну клёна было зацягнена старое кола. На ім і змайстравалі сваю сядзібу бацяны.

Дзед быў на гумнішчы. Збегалі да яго.

— Дзядуля, бацяны прыляцелі!

Дзядуля бачыў іх неаднойчы, але ж трэба даць радасць малым, падзякаваць ім за тое, што прынеслі добрую навіну.

— Прыляцелі? Добра, дзеткі. Зараз іду.

Падышоўшы да клёна, дзед выгукнуў:

— Добры дзень, боця!

Бацян нахіліў галоўку з дрэва і заляскаў дзюбкай:

(Працяг на стар. 10)

Уладзімір Дубоўка

# АПАВЯДАННІ-ЎСПАМІНЫ

# ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Іэлі Тулупава

## МАМІНА ДАЧУШКА

Гэта — вочкі,
Гэта — носік,
Гэта — роцік,
Гэта — вушкі,
Гэта — маміна дачушка!

## ЛАДЫ

У дачушкі Верачкі
Пальцы, бы цукерачкі.
У дачушкі Ладачкі
Шчочкі, як аладачкі,
Лады мае, ладачкі.

## ВОЧКІ

Сіненькія вочкі
У маленькай дочкі.
Кажуць вочкам матылькі:
— Вы не вочкі — васількі,
А можа, званочкі?
— Не, мы — вочкі, вочкі!

## ВУШКІ

— Вушкі, вушкі,
Што вы чулі?
— Чулі песеньку Ганнулі:
„Гулі-гулі,
Гулі-гулі".
— Вушкі, вушкі,
Што вы чулі?
— Нам нічога не чуваць,
Прыйшлі козы начаваць,
Танцаваць ды прыпяваць:
„Не хоча Ганнуля
Вушкі свае мыць,
Будзем з казляняткамі
Тут, у вушках, жыць".

## НОЖКІ

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Трэба коніка каваць —
У дарожцы начаваць.
На галінках — птушкі,
Жвавыя пяюшкі.
Зорачкі — на кветках.
У калысках — дзеткі.

## КУЛАЧОК

— Во, які кулачок!
Во, які кругля́чок!
— А што ў гэтым кулачку
А што ў гэтым круглячку?
— А ў ім пальчыкі:
Адзін,
Другі,
Трэці,
Чацвёрты
І пяты
У дачушкі Наты.

## ПЕСТУНОК

— На табе, мой сынку,
Цёплую скарынку,
Скарыначку хлеба.
— Не хачу, не трэба!
— На табе, сыночак,
З булкаю мядочак...
А сынок не хоча
Ды адводзіць вочы.
— Пестунок, з табой бяда, —
Булку Ваську я аддам,
Хадзі, мой каточку,
Еш булку з мядочкам!

(Працяг са стар. 9)

## СВЯТА БЕЛАРУСКАГА СЛОВА

Морданя „Нечакана". Вельмі добра выконвалі свае ролі Іра Кананюк, Эля Сіліванюк, Эва Нікалаюк, Агнешка Пашко, Аня Станько і іншыя. З гэтай п'ескай ласінкаўскі гуртох выступаў ужо ў Крыўцы і ў Тыневічах.

У дэкламатарскім конкурсе выступіла шэсць дзяўчатак. З белавежцаў найбольшай папулярнасцю карысталіся творы Віктара Шведа, Сакрата Яновіча, Леапольда Танкевіча і Юркі Геніуша. Вялікія цяжкасці мела камісія, каб вызначыць найлепшых. Усе падрыхтаваліся вельмі добра: дэкламавалі без запінкі, выразна і правільна, у тэкст укладалі ўласныя перажыванні, учуваліся ў аўтарскія вобразы, выказвалі сваё мастацкае ўяўленне. На раённы агляд са школы ў Ласінцы паехалі Крыся Садоўская (8 кл.), Ася Астапчук, Ася Філіповіч і Ася Коўнер (5 клас).

**Тэкст і фота**
**Я. Чэрнякевіч**



**Сямікласніцы-ўдзельніцы гуртка беларускага мастацкага слова, члены тэатральнага калектыву ў Ласінцы.**

(Працяг са стар. 9)

## АПАВЯДАННІ-ЎСПАМІНЫ

— Та-та-та-та...

— Дзе ж ты лётаў? Што ты бачыў?

Бацян зноў у адказ:

— Та-та-та...

— Жыві шчаслівa ў нас. Ніхто цябе не скрыўдзіць. А калі што якое — адразу скажы мне. Я таму дам кару добрую...

Бацян паўтарае сваё:

— Та-та-та...

Мы ўсе да сваіх матак.

— Мамачка! Дзядуля з бацяном размаўляў. А боцяа яму пра ўсё апавядаў: як ён лётаў, куды, што дзе бачыў...

Размаўляў ці не размаўляў, але нейкае паразуменне між імі было. Трэба сказаць, што адзін бацян аднойчы закульгаў, недзе ў вялікім падарожжы пашкодзіў ножку. Колькі часу жыў ён у дзеда. А пасля — ведалі дакладна: сем гадоў прылятаў ён, кульгавы, на сваё гняздо.

Пасля загінуў недзе. Пачаў прылятаць новы жыхар гэтага гнязда.

**(З кнігі „Пялёсткі")**



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Піша да Цябе ўжо знаёмая вучаніца трэцяга класа Пачатковай школы ў Барысаўцы Анэта Буйноўская. Хачу Табе, дарагая „Зорка", крыху расказаць аб лёсе нашай школы ў будучыні і аб тым, што чакае нас-вучняў.

У наступным школьным годзе мы ўжо будзем вучыцца не ў Барысаўцы, а ў Нарве. Там будуецца вялікая і прыгожая школа. Аднак я думаю, што нам будзе цяжка расстацца з нашай школай, у якой вучымся цяпер. Трэба прыпомніць, што тут вучыліся нашыя бацькі, мамы і дзядулі. Цешымся, што будзем мець прыгожую школу, але калі падумаем, што трэба будзе ездзіць аўтобусам да Нарвы, то аж страхі агартаюць. Напэўна, стоячы на шашы, чакаючы на аўтобус, не раз і не два змерзнуць нашыя ногі, нашыя рукі і нос. Што ж зрабіць, калі нас чакае такая будучыня? На канец жадаю маім сябрам і сяброўкам шчаслівай дарогі ў школу ў Нарве і назад дадому.

**Анэта Буйноўская,**
**школа ў Барысаўцы.**





**„Вучні чакаюць аўтобуса. Ах, як холадна!" Малюнак Анэты Буйноўскай.**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Піша да Цябе вучаніца Пачатковай школы ў Барысаўцы Эва Юзвюк. Мы на ўроках часта чытаем загадкі. Я Табе загадаю тры загадкі.

1. Маленькі, але ўдаленькі, скрозь зямлю прайшоў, чырвоную шапачку знайшоў.

2. Па лузе ходзіць, на сабе кажух носіць.

3. Што гэта за загадка — дзве кулькі і арматка?

Адгадала, „Зорка"?

**Эва Юзвюк, вуч. 3 класа,**
**школа ў Барысаўцы.**

**Ад „Зоркі": А вы, дзеці, адгадалі? Дык прышліце адгадкі.**

**Уладзімір Ліпскі**

# ВЯСЁЛАЯ АЗБУКА

**Пачатак у папярэдніх нумарах**

## ФОКУС

У і Ф — суседзі. Доўга спрачаліся: хто з іх галоўны ў азбуцы?

У ўсё ўказвала:

— Уладарка азбукі я — уважлівая, увішная, удачлівая, удумлівая, узнёслая, умелая...

Ф фанабэрыста фуркала:

— Фу, уладарка, а я — фантазёрка, фігурыстка, футбалістка, фатограф...

— Уф, — уздыхала У. — Мо Ф і фокусніца?...

Аднаго разу Ф сказала:

— Фокус пакажу!

— Фантазёрка, — усміхнулася У.

Ф ускінула на сябе фокусніцкі фартух, на фанерку сыпнула фасолі. Узняла рукі ў бокі, забубнела:

Футы-нуты — кот абуты,
Футы-муры — збеглі куры,
Фукі-мукі — мыю рукі,
Фуці-аці — буду йграці.

Ф ухапіла флейту. Музычны гук „фа" ўзляцеў увышыню. У тую ж хвіліну з фасолі ўмомант утварыліся... фламастэры.

У не ўстрымалася, ускрыкнула:

— Ф — не фокусніца, а чараўніца!

Ф выдула яшчэ адну ноту „фа", выдыхнула:

— Фу! Усякі фокус — пакуты.

З таго часу У і Ф — дружныя суседзі.

## ЦЕРАМОК

Хведар і Цімох — цесляры. З літар Ц і Х зрабілі хатку: Ц — сцены, Х — дах. Вось і цудоўная хатка-церамок. Усе цацкі захацелі гуляць з Хведарам і Цімохам. Ды не ўсіх прымаюць у церамок.

Цапу-лапу, хапу-лапу — падыходзіць к церамку цэлая хмара.

— Хто ты? — пытаюцца Хведар і Цімох.

— Хобат-Хабатовіч. Працую ў цырку. Магу насіць хваёвыя хлысты. Умею вазіць дзяцей. Вазьміце ў церамок.

— Праходзьце, Хобат-Хабатовіч.

Прыляцеў новы госць. Сядзіць на даху, просіцца:

— Пусціце ў церамок.

— Хто ты?

— Цёх-Цёх. Спяваць хачу ў церамку: цёх-цёх-цір-р-р, цёх-цёх-цір-р-р...

Жывуць у церамку Хведар, Цімох, Хобат-Хабатовіч, Цёх-Цёх. Ды раптам — ціў-ціў.

— А вы хто?

— Цыпкі. Пусціце пагрэцца.

— Заходзьце, жоўценькія дзьмухаўцы.

— Цяў-цяў, вазьміце і мяне. Буду вартаваць церамок.

— Цю-цю, заходзьце, Цяўка.

Адгадайце, хто-хто цяпер у церамку?

**(Працяг будзе)**

**Ад „Зоркі": Здагадайся, хто ў церамку і зрабі ілюстрацыю да гэтай казкі. Калі выйдзе прыгожа, прышлі ў „Зорку". Найпрыгажэйшыя ілюстрацыі будуць друкавацца ў „Зорцы" і трапяць на „Зорчыну" выстаўку.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 2, кв. 53, Таня Русакова, 6 клас.

* * *

БССР, 220029, г. Мінск-29, вул. Камуністычная, 3, кв. 3, Юля Байдакова, 4 клас.





**Для кожнага малюнка з літарай знайдзі адпаведнік з лічбай.**



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Зорка".

## ЧЫЯ ЖОНКА ЛЕПЕЙ?

Паспрачаліся неяк тры сябры аб тым, чыя жонка лепей.

Першы сказаў:

— У маёй вочы карыя.

Другі:

— У маёй — блакітныя.

А трэці:

— А мая вочы наогул не фарбуе...

Пераглянуліся першы з другім, зразумеўшы, што першы тур яны прайгралі.

Тады першы сказаў:

— Мая жонка кульурна развіваецца, у кіно пастаянна ходзіць.

Другі:

— Мая — тэатрам аддае перавагу.

Трэці:

— А мая дома вечарамі сядзіць, шкарпэткі цыруе.

Зноў пераглянуліся першы з другім, бо нічога больш ім не заставалася.

Зноў першы пачаў:

— Мая жонка вельмі любіць сярэбраныя ўпрыгожванні.

Другі працягваў:

— Мая — залатыя...

Трэці закончыў:

— А я сваёй аднойчы драўляныя пацеркі купіў, яна іх у шуфляду паклала і зусім не носіць...

І на гэты раз першы з другім прайгралі.

Падумаў першы, падумаў дый кажа:

— Ведаеш, другі, чаму мы з табой увесь час праігрываем? Таму што трэці пастаянна трэцім гаворыць. Давай мы яго першым зробім...

— Давай, — згадзіўся другі, не падумаўшы.

— Добра, — сказаў трэці, — працягнем... Учора я прыходжу дамоў пасля работы, а жонка кажа: „Паслухай, ёсць у цябе два сябры, ты іх яшчэ Першым і Другім часам завеш... Дык вось, ці паверыш, лепш за гэтых людзей на свеце няма. Ты б з іх прыклад браў...

— Так і сказала? — здзівіўся першы.

— Так і сказала? — перапытаў другі.

— Не сумнявайцеся, — сказаў трэці. — Дык чыя жонка лепей?

Спрачацца больш не было аб чым.

**Уладзімір Цвяткоў**

# НІЎКА



На ўзроўні сучасных патрабаванняў.

### ШЧАСЛІВАЯ

— Не ведаю, што рабіць: мой муж увесь час гаворыць пра сваю колішнюю жонку.

— Шчаслівая! Мой увесь час гаворыць пра будучую.

### ДУМКА

— Мама, Алесь кажа, што я найпрыгажэйшая дзяўчына на свеце. Можа хоць раз запрасіць яго да нас?

— Не трэба, дачуся, няхай працягвае так думаць.

### АБОЕ РАБОЕ

Бацька: — Міколка, перастань буяніць. Няўжо цябе ў школе так выхоўваюць?

Міхола: — А ў школе здзіўляюцца: „Няўжо цябе так выхоўваюць дома?"

### ХЛУС

— Я рашыў тэарэму Фермі.

— Малайчына!

— Я вынайшоў вечны рухавік.

— Брава! Віншую!

— Я купіў крэм для брыцця.

— Пайшоў прэч, хлус!





Калі ў мяне раздваенне асобы, ці маю я права на дадатковую плошчу?

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Енсен прыпаркаваў свой аўтамабіль ля рэзідэнцыі прэм'ер-міністра і збіраўся ісці па сваіх справах.

— Будзьце ласкавы, забярыце адсюль сваю машыну, — ветліва сказаў яму паліцэйскі. — Хутка павінен выйсці наш прэм'ер-міністр.

— Не турбуйцеся, — адказаў Енсен, — мая машына абсталявана процiўгонным прыладай і гукавай сігналізацыяй...

— ✻ —

Пасля заканчэння каледжа Дэрык зняў кватэру і запрасіў бацькоў у госці. Ён з гордасцю паказаў ім сваё новае жыллё, але раптам са здзіўленнем прыкмеціў, што бацька, пераходзячы з пакоя ў пакой, чамусьці ўключае ўсюды святло.

— Тата, дзеля чаго ты наладзіў ілюмінацыю?

Бацька радасна засмяяўся:

— Дваццаць два гады я чакаў таго моманту, калі змагу прыйсці ў твой дом і запаліць усе лямпачкі да адзінай.

### КАСТУСЬ

— Калі ты хоць раз прыйдзеш дадому п'яны — разводзімся, — гаворыць да Кастуся жонка.

— Чаму ж ты раней пра гэта не сказала? — адказвае Кастусь.

З „Весніка Задрыпоніі"

### (У МІНІСТЭРСТВА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ)

У сувязі з тым, што на маіх памылках навучалася 1745 чалавек, прашу прысвоіць мне званне „Заслужаны настаўнік".

### НАВІНЫ МАСТАЦТВА

У гор. Ачуцінаве праведзены конкурс сярод самадзейных маёткаў па насценных надпісах і малюнках. Пераможцам конкурсу ўручаны дыплом і павесткі з выклікам у суд.

З суседскага агародчыка.




### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ

Што супольнага ў гэтых малюнках? Здавалася б, нічога. Аднак, прыглядзеўшыся, знойдзеце 7 ідэнтычных дэталяў.





Разгадка: 1) фрагмент стужкі ззаду кашулі і фрагмент правай калашыны ваяна, 2) клямка і дэталь пад лаўкай, 3) кішэнь на халаце санітара і прамавугольнік на бакавой сценцы тэлевізара, 4) берат лысанка і дымок з папіросы, 5) шнурок на левым чаравіку і шрам на шчацэ, 6) сарэдзіна кветкі на спінцы крэсла і шарык на антэне, 7) палова сядзення на крэсле і скібка хлеба на збанку.

# Курёзы

### СКОТЛАНД-ЯРД УЗБРОЙВАЕЦЦА

Англійская паліцыя вырашыла выпрабаваць у якасці зброі для барацьбы з дэманстрантамі і на выпадак узнікнення хваляванняў спецыяльную прыладу „Эрэнджэр". Раней яна ўжывалася для ўціхамірвання дзікіх звяроў: пры дапамозе электрашоку ім уводзілася порцыя моцнага супакойліва, пранікаючага праз скуру. Жывёліна зараз жа станавілася пакорнай. Часам гэтай жа меры ўздзеяння падвяргаліся псіхічна хворыя...

Галоўны паліцэйскі кіраўнік лонданскай паліцыі Роберт Уэлс заявіў, што ім неабходна мець зброю, якая магла б на пяць секунд абясшкодзіць чалавека, не забіваючы яго. Ён прызнаў, што Скотланд-Ярд ужо выпрабоўвае рэвальвер „Эрэнджэр" з чатырохзалёвым супакойлівым зарадам. Няясным застаецца, аднак, пытанне: колькі і якое менавіта рэчыва трэба змяшчаць у зарад?




Не адзывайцеся дрэнна аб адсутных, калі ёсць прысутныя.

*Баечкі*

### ПЭЦКАЛЬ

Усюды на будынкі, на слупы,
Бы той сабака, ставіць знак
Мікіта
Ці фарбай, ці нажом: „Тут першы быў".
Ну што з ім зробіш? Ён жа першабытны.

### АПЕТЫТ

Ён крычыць, аж з вуснаў пена:
„Мала мяса-малака!"
Сам не вырасціў і пеўня —
Рот разявіў на быка.

**Сяргей Дзерышаў**